Год III. Кастрычнік № 10 (33)



# Шлях Моладзі

… „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі“.

ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1931 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

## ЗЬМЕСТ № 10.






# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

| | |
|---|---|
| Падпіска на 3 месяцы . . . . | 50 гр |
| „ на паўгода . . . . . . | 1 зл. |
| „ на год . . . . . . . | 2 зл |

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

| | |
|---|---|
| Цэлая старонка . . . . . . . | 40 зл. |
| Паўстаронкі . . . . . . . . | 20 зл. |
| Адна чацьвертая старонкі . . | 10 зл. |

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| | | |
|---|---|---|
| Год III. | Вільня, Кастрычнік 1931 г. | № 10 (33). |


## ВУЧЭМОСЯ!

*Вучыся, нябожа, вучэньне паможа*
*Змагацца з нядоляй, з няволяй...*
*Што муча сягоння, што думкі*
*трывожа,*
*Збяжыць і ня прыдзе ніколі.*
*Я. Купала*

Прайшлі ўжо летнія вакацыі для моладзі. Настаў новы школьны год. Моладзь грамадой вясёла сьпяшыць у школы па веду, па сьвятло.

У нашай старонцы, на нашай беларускай вёсцы пазналі таксама ўжо людзі, як цяжка жыць цёмнаму чалавеку і як патрэбна навука, аднак ня відаць гэтае радасьці, — наадварот, мы бачым нейкі сум. Бо нашай моладзі трудна дайсьці да сьвятла. У нас школ за мала, прытым свае праўдзівае роднае беларускае школы у нас бадай што няма. Моладзь беларуская ня мае нармальных варункаў да навукі і цэлыя масы яе замест вучыцца марнуюць дарагія гады маладасьці, ходзячы з кута ў кут. Гэтак ёсьць з моладзьдзю, якая хоча яшчэ толькі першы раз узяць кніжку ў рукі. Ня лепш аднак і з той, якая такім, ці іншым спосабам здабыла троха сьвятла і хацела-б вучыцца далей, паступіўшы ў сярэднюю школу, не гаворачы ўжо аб вышэйшай, да якой беларусам яшчэ трудней дайсьці.

Вось-жа не адзін наш беларускі юнак у сучасны мамэнт абліваецца горкімі сьлязьмі, ня могучы паступіць у сярэднюю школу, маючы нават найвялікшыя здольнасьці і ахвоту. Бо бацькі нашае моладзі бедныя і ня могуць заплаціць за навуку і даць ёй магчымасьць сяк-так пражыць у месьце.

Яшчэ больш жаль сьціскае сэрца, калі глянем мы на тое, што ў той час, калі сын беднага селяніна, ці работ-

ніка, хоць і здольны, мусіць плаціць за навуку, а сын багатага ўрадоўца, ня гледзячы на яго здольнасьці, вучыцца ў той-жа школе бязплатна.

Беларускія сярэднія школы, гэта значыць, астаўшыяся яшчэ толькі дзьве гімназіі—пазбаўленыя ўрадавае запамогі знаходзяцца ў страшна цяжкім матэр'яльным палажэньні і змушаны таксама дамагацца платы за навуку нават бедных вучняў, якія, ня могучы ўнясьці яе, змушаны перарываць навуку і ехаць дамоў на вёску.

Крыўдна, сумна і цяжка.

У такіх абставінах беларускі народ ня хутка дачакае дабра і волі. Яшчэ доўга будзе панаваць цемра і несправядлівасьць. Але і ў такім нават палажэньні мы моладзь не павінны падаць духам і не глядзець на гэта, улажыўшы рукі ў кішэні. Калі ня можам вучыцца ў школе, бярэмо ў рукі кніжкі, ставайма да варштатаў і вучымося самі праз сябе — саматугам — як кажуць. Не марнуйма дарма і беспатрэбна дарагога часу маладасьці, ходзячы з хаты ў хату па вечарынках і пасядзёлках.

Вучачыся такім спосабам мы не здабудзем для сябе атэстатаў, але аднак пры добрай волі можам шмат што пазнаць і шмат чаго навучыцца, і можам таксама астацца добрымі рамесьнікамі, майстрамі, фахоўцамі, якія ня меньш нам патрэбныя ад так званых умысловых працаўнікоў.

Вучачыся ці то ў школе ці дома ці ў майстроўнях, мы павінны памятаваць аб сваёй душы, аб сваіх маральных патрэбах, аб сваім характары, узгадаваньні, а перадусім аб народнай беларускай справе, аб прабуджаньні нашага народу з адвечнай сьпячкі і вызваленьня з нядолі.

Пры гэтым трэба быць заўсёды на усё прыгатаваным, бо сяньняшні сьвет, гэта, як-бы гаршчок з кіпучым малаком, якое залежна ад вялічыні агню вельмі хутка падвышаецца і абніжаецца, а нават і вылятае з гэтага гаршка.

І вось - жа тады, калі мы будзем сьветлымі людзьмі і будзем кахаць сваю Бацькаўшчыну, калі мы будзем сільныя духам і жадаць дабра для свайго Народу, ня зломіць нас ніякая варожая сіла, а будучыня належаць будзе да нас.

Дык вучэмося, узгадоўваймо моцны характар і памя-

таймо аб нашай долі, слухаючы голасу нашага вялікага паэта Янкі Купалы:

Крыўдзіцеляў зможаш, сьлед вечны
пралажаш
І к долі, і к волі і к славе...
Адно ты прачнiся, вучыся, як можаш—
Ці дома, ці на школьнай лаве.

Я. Н.

# Крыху з нашай гісторыі.

## Полацкае княства пасля сьмерці Усяслава.

Па сьмерці Усяслава ў Полаччыне пачынаюцца беспарадкі, з прычыны чаго дасюляшняе жыцьцё Полаччыны пачынае іесьці па пахілай плошчы, занепадаць. Пачынаецца ўнутраньняе змаганьне грамадзян княства: на чале гарадоў, якія спрачаюцца, становяцца асобныя князі Рагвалодавага роду і вядуць змаганьне, як адзін з адным, так і ўсе разам з старэйшым Полацкім князем. Агулам на тэрыторыі Полацкага княства пачаўся поўны нялад у жыцьці палітычным і грамадзкім. Прычыны гэтага сумнага малюнку трудна дагледзецца, бо няма адпаведных вестак з таго часу.

Побач з унутраным змаганьнем прадаўжаецца далей змаганьне вонкавае г. зн. Полацкай воласьці з Кіеўскай, якія цягнуцца яшчэ з часоў Рагвалода. Уладзімер Манамах зацяты вораг Полаччыны, увесь час ня спыняе рабіць напады і паходы на Полаччыну. Бачачы, што ў Полаччыне можна збагаціцца ваеннымі здабычамі, усе Кіеўскія Князі злучаюцца разам і супольна робяць паход на Полаччыну ў 1127 г., нішчачы агнём і мячом усе гарады і аселішча, якія спатыкалі на сваёй дарозе. Аж урэшце, у 1129 г. вялікі князь кіеўскі Мсьціслаў выгнаў з Полацку, Менску і інш. гарадоў Ізяславічаў, а на іх месца пасадзіў сваіх князькоў. Палачане пад прымусам сільнай зброі мусілі згадзіцца з лёсам, які іх так ганебна зьняволіў і паніжыў.

За часы панаваньня князькоў — грабіцеляў, Полаччына дайшла да поўнай руіны.

Акупанты тысячамі прадавалі на рынках падданых Палачан, як на азіятыцкіх, так і на эўрапэйскіх рынках. З гандлю нявольнікамі карысталі і багацелі ня толькі чужынцы — князі, але і мясцовыя капіталісты. Гэткім чынам чужынцы і мясцовая буржуазія дашчэнта руйнавалі Полаччыну.

Але прышоў канец народнай цярплівасьці і Полаччы-

на зрабіла паўстаньне ў 1132 г. Яно ахапіла помстай вялікія народныя масы. Народ прагнаў з краю чужынцаў і іх прыхільнікаў эксплёатараў.

У Полацку сабралася веча і пастанавіла вярнуць на полацкі княжы пасад Рагвалодавых унукаў, якіх кіеўскія князі выгналі з граніцаў роднае зямлі. Відаць Рагвалодаў род быў добрай дынастыяй для Полаччыны, калі зноў яе паклікалі да адбудаваньня зруйнаванага краю.

Паклікаяыя народам Ізяславічы, вярнуліся на Бацькаўшчыну і кіравалі Полаччынай ад 1132—1180 г. З гэтых князёў найбольшай здольнасьцю і энэргіяй у кіраваньні дзяржавай найлепш адзначаліся ўнук Усяслава — Васілёк Рагвалодавіч і яго сын Усяслаў Васількович. У гэтыя часы спыніліся спрэчкі дамовыя і край шыбка пачаў адбудовывацца. Кіеўшчына таксама перастала нападаць на Полаччыну, бо яна мусіла адвярнуць свае сілы на Полаўцаў, — паўднёвых качаўнікоў. А таксама ня спыняліся і дамашнія спрэчкі паміж асобнымі валасьцямі і князямі Кіеўшчыны. Ад рожных непарадкаў, якія запанавалі ў Кіеўшчыне, ня толькі простыя людзі ўцякалі з сваей бацькаўшчыны, але нават Уладзімер Манамах — князь быў адным з такіх.

На чале бежанцаў у чужыне стаў князь Юры Даўгарукі, потым яго сын Андрэй Багалюбскі. Хоць яны і Кіеўскія князі па паходжаньні, але традыцыяў сваіх ня трымаліся. Дзякуючы гэтаму пачынае разрастацца Растова-Суздаль — тэрыторыя Русі, якая дагэтуль ня мела вялікага значэньня. І таму толькі Полаччына пачала ачуняць пасьля цяжкага жыцьця, якое перажывала ў пачатках XII ст.

Па сьмерці Усяслава Васількавіча 1180 г., якога цэлы народ разам з паасобнымі князямі вельмі цаніў як разумнага і справядлівага валадара Полаччыны,здарылася на тыя часы цікавае здарэньне. Веча было перакананае, што падобнага князя, якім быў Усяслаў Васількович ня знойдзе, дык каб не зняважыць нябожчыка, не выбірала ніякага князя і ўстанавіла ў Полацку **рэспубліку**, якой кіравалі 30 старшынь у працягу 10-х гадоў.

Аднак не магчыма згадзіцца з тым, што ў Полаччыне веча не магло знайсьці адпаведнага князя на Полацкі пасад. Трэба ў гэтым выпадку шукаць глыбейшай прычыны, прычыны палітычнага характару. Каб дайсьці да прычыны заснаваньня Полацкай рэспублікі, трэба ўспомніць паданьні даўнай Эльляды, каторыя сваім зьместам вельмі падобныя да вышэй успомненага факту.

„Быў калісь у Аттыцы цар Кодр, каторага народ вельмі любіў. І вось аднаго разу напалі на Аттыку ворагі. Тады людзі зьвярнуліся да варажбітоў, якія сказалі: „пераможа тая старана, дзе згіне цар. Пачуўшы такі адказ, Кодр задумаў зрабіць ахвяру для свайго народу. Апрануў-

ся ў лахманы, павесіў торбу жабрацкую на плечы і пайшоў у варожы абоз. Тут ён сумысьля пачаў спрэчкі. Ворагі ня ведаючы, што гэты жабрак ёсьць афінскім царам, у спрэчцы забілі яго. Тут толькі яны даведаліся аб боскім прыказе. Пасьля гэтага, не спадзяючыся перамогі афінян, бо з іх боку згінуў цар, ворагі самі адыйшлі ад Аттыкі. А Афіняне, вызваліўшыся ад непрыяцеля, на сходзе зрабілі пастанову, каб не выбіраць цара, бо другога такога, як Кодр не магчыма знайсьці." Такім чынам у Аттыцы была заложана арыстакратычная рэспубліка.

Гістарычная навука ў гэтым паданьні ўгледзіла далёкі водгук барацьбы за ўладу багацейшых станаў гаспадарства з царамі, каторыя абмяжовывалі іх уплыў. Цары таму былі небяспечнымі для арыстакратаў, што яны часта апіраліся на просты народ. І прышло да таго, што просты народ у Афінах доўга не цярпеў арыстакратычную рэспубліку, але аддаў уладу ў рукі Пізыстрату, які быў прадстаўніком дэмократычнай рэспублікі.

Трэба дадумывацца, што так было і ў Полаччыне. Скарыстаўшы са сьмерці ўлюблёнага князя праз народ, трыццаць багацейшых баяраў павярнулі веча нейкім спосабам на свой бок і такім чынам захапілі ў свае рукі палітычную ўладу Полаччыны. Рэч зразумелая, што просты народ ня быў здаволены з такой рэспублікі, якая больш яго абмяжовывала чым князёўская ўлада і, дзеля гэтага народнае абурэньне ў 1190 г. кончыла гэтую рэспубліку, каторая існавала толькі 9 гадоў. Бачым з гэтага, што і ў старыя часы наш народ меў добра разьвітую палітычную сьведамасьць. М. Пяцюкевіч.

# Змаганьне за Царкву.

Як усім добра ведама, Праваслаўная Царква ў сучаснай Польшчы знаходзіцца ў руках расейцаў. Расейцы гэтыя, як і за часоў царызму, стараюцца ўсякімі спосабамі выкарыстаць Царкву для сваіх палітычных русафільскіх мэтаў, падобна, як ксяндзы палякі Касьцёл Каталіцкі для палянізацыі, падрываючы гэтым аўтарытэт хрысьціянства і Царквы і адбіваючы ад яе народ.

Сьведамыя праваслаўныя беларусы, разумеючы гэта і стоячы ў абароне Царквы, пачалі спрацівіляцца гэткім паступкам царкоўных уладаў, дамагаючыся аддаленьня з кіраўнічых пасад некаторых, найбольшых ворагаў беларускасьці, — духоўнікаў расейцаў. На гэта аднак кіраўнікі праваслаўя мала зварочвалі ўвагі і далей праводзілі сваю работу. Бачачы-ж гэта, беларускае праваслаўнае грамадзянства, асабліва гарачая, як заўсёды, моладзь, пачалі выступаць востра ў абароне правоў народу і Царквы.

У прошлым годзе ў Вільні, летам, паявіліся дзьве беларускія аднаднёўкі: „Проч з ліхазельлем“ і „У імя праўды,“ у якіх былі паданы да агульнага ведама нягодныя і падрываючыя аўтарытэт Праваслаўнае Царквы паступкі некаторых сяброў-расейцаў Віленскае Праваслаўнае Кансысторыі. Аўтарам і выдаўцом гэтых аднаднёвак быў студэнт беларус С. Сарока, які пасьля дамагаўся нават ад сяброў Віленскае Праваслаўнае Кансысторыі, калі яны чуюцца абражанымі і калі паданыя весткі не праўдзівыя, пацягнуць яго да судовае адказнасьці.

Вось-жа справа гэта і знайшлася 22-га верасьня на парадку дня ў Віленскім Акружным Судзе, аднак студэнта Сароку абвінавачвалі толькі за абразу Кансысторыі, як установы, а не за абразу сяброў яе. І за гэта толькі Суд засудзіў яго на 1 месяц арышту з „завешаньнем“ на 2 гады. А закіды сябром Кансысторыі, аб іх нягодных пастунках і разбураньні Царквы, як відаць, аказаліся фактамі, бо за іх студ. Сарокі не засудзілі.

Барацьба за Царкву і на далей не спыняецца і думаем, што і ня спыніцца, аж пакуль Кіраўнікі Праваслаўнае Царквы не зразумеюць так простых і ясных жаданьняў беларускага праваслаўнага грамадзянства, што Царква Праваслаўная для беларусаў мусіць быць беларускай, а не расейскай, што ў ёй павінен быць дух хрысьціянскі і дух беларускі, блізкі беларускаму народу, што ў ёй павінна грымець мова беларуская, а не расейская. Гэтыя-ж дамаганьні слушныя і згодныя з навукай Хрыста. І тады толькі, калі Праваслаўная Царква будзе блізка беларускай народнай душы, народ наш будзе да Яе хінуцца і сярод яго ня будуць мець пасьпеху ніякія сэкты і бязьверра.

Пара, здаецца, гэта зразумець кіраўнікам Праваслаўнае Царквы.

* * *

У палове месяца кастрычніка вышаў у сьвет № 2 (5) беларускае праваслаўнае часопісі „Сьветач Беларусі,“ зьмест якой вельмі багаты і прыносіць новыя „красачкі“ з дзейнасьці сяброў Віленскае Кансысторыі.

Апошнім часам таксама паўстала ў Вільні Група Беларускіх Праваслаўных Студэнтаў У. С. Б., а так-жа і Хаўрус Праваслаўнае Беларускае Моладзі, якія маюць дамагацца беларускасьці Праваслаўнае Царквы. Моладзь гэта супрацоўнічае ў Рэдакцыі „Сьветач Беларусі,“ а так-жа выслала ўжо адпаведныя мэмор'ялы да кіраўнікоў Праваслаўнае Царквы ў Польшчы.

Няхай-жа ідэя барацьба за правы народу ў Царкве і за вызваленьне Царквы з няволі маскоўскага нацыяналізму пашыраецца і няхай яна як найхутчэй дасягае свае мэты!...

Праваслаўны.

# Агульная перапісь.

9 сьнежня (грудня) 1931 году на абшары сучаснае Польскае Дзяржавы, а гэтым самым і на нашых беларускіх землях, адбудзецца агульная перапісь насельніцтва. Перапісь такая бязумоўна ў жыцьці грамадзкім вельмі патрэбна. Робяць яе ўсе культурныя народы і нават даволі часта. У нас была падобная перапісь у 1921 г.

У часе гэтае перапісі будуць запісваць, хто калі радзіўся, чым займаецца, якога веравызнаньня і г. д., а таксама, якая ў каго родная бацькаўская мова („ензык ойчысты"). Па гэтым апошнім будуць потым аблічаць, сколька ёсьць у сучаснай Польшчы палякоў, беларусаў, украінцаў, ліцьвіноў, жыдоў, вялікарусаў (расейцаў, рускіх) немцаў і інш.

Справа гэта вельмі важная, асабліва для нас беларусаў і дзеля гэтага кожны грамадзянін у імя ўласных і грамадзкіх інтарэсаў сьмела павінен прызнацца, якая ёсьць сапраўды яго родная мова.

Жыхары нашага краю з дзеда і прадзеда беларусы і гавораць па беларуску (па просту, як кажуць) і дзеля гэтага іх мова родная бацькаўская, (ензык ойчысты) ёсьць беларуская.

Аднак і з гэтым у нас бываюць непаразуменьні. Многія беларусы каталікі пад намовай ксяндза паляка ці вучыцеля, ды хочучы ім прыпадабацца гавораць, што яны палякі і нават мова бацькаўская іх польская; праваслаўныя-ж ізноў часта мыльна цьвердзяць, што яны рускія і мова іх расейская, як адныя, так і другія з роду беларусы і ані папольску, ані па расейску добра слова сказаць ня могуць.

Такімі цьверджаньнямі мы прыносім сабе вялікую шкоду, а пры тым іншых уводзім у блуд.

Вось-жа так быць не павінна, трэба сказаць сьмела, нястыдаючыся ды не баючыся нікога, што мова наша родная бацькаўская ці то беларуса каталіка ці праваслаўнага **беларуская**, ды трэба і дагледзіць, каб перапісчык так у сьпісе запісаў.

Сьведамыя і сьвятлейшыя беларусы, а асабліва моладзь, павінны гэта вытлумачыць сваім братом, якія можа і гэтае так простае і яснае рэчы ня могуць зразумець.

Памятаймо, што **9 сьнежня** („грудня") сёлетняга году ў часе перапісі на пытаньне, якая бацькаўская родная мова („język ojczysty") адказваем — **Беларуская.**

Я. Н.

---

*Чытайце і пашырайце „Шлях Моладзі"!*

# З падарожы па Палесьсі.

## Выезд з Вільні.

„Всядаць“ — раздаўся громкі голас добра збудаванага кандуктара і ў гэтую-ж хвіліну пасажыры хутка пачалі ўскаківаць у вагоны. І толькі адзін пасажыр яшчэ не сьпяшыў бегчы ў вагон па „пэроне“, „сьпяшаючыся“ цалаваўся з заплаканай жанчынай. Быў гэта жыд і мне здавалася, што пэўна ён адяʼяжджае ў Палестыну, але пасьля аказалася, што едзе ён у Ліду.

Пасьля пару сэкундаў рушыў цягнік, на якім быў напісь „Вільно-Ліда-Лунінец.“ Стаяў я пры вакне вагону і глядзеў як тыя, што асталіся на віленскім „пэроне“ махалі хустачкамі, шапкамі і рукамі, а тая жыдоўка, што доўга цалавалася з мужам усьлед за цягнікам пасылала паветраныя пацалункі свайму „ненаглядному,“ які пакідае яе на цэлы тыдзень.

Гледзячы на ўсё гэта неяк сумна рабілася на сэрцы, бо ніхто мяне не праводзіў на станцыю і ніхто не пасылаў мне пацалункаў.

Цягнік штораз набіраў больш пары і пачынаў іесьці „поўным ходам.“ І так, ляціць цягнік, сапіць, чхае вогнена-дымнай пенай быццам смок, які здаецца праглынуў-бы ўсё спатыканае на дарозе.

Нарэшце вырваўся з места і выплыў на волю, — на поле. Вось дзе раздольле! І дыхаць лягчэй стала. Сьвежае здаровае, пахучае рожнароднымі краскамі паветра даходзіла праз адчыненыя вокны вагонаў і авявала сваей сьвежасьцю і моцай духовага напітку пасажыраў, прагнучых падыхаць вольным, здаровым паветрам. Глядзеў я з захопленьнем на шырокае поле, на вузенькія ніўкі, дзе стаяла пажатае жыта і любаваўся гэтым мілым вобразам, так мілым і блізкім маей мужыцкай душы. Гледзячы на мэндлі, а па дзісенскаму бабкі, прыпаміналіся мне хвіліны, калі падчас буры ці дажджу, або ад вялікай сьпекі ў гарачае лета скрываўся я ў бабкі, каб адпачыць пакасіўшы добрага паўдня. І цяпер хацелася мне ўлесьці ў мэндлі і падыхаць сьвежым хлебным араматам, які выдзялялі буйныя калосься і замёршыя сінявокія васількі. Бачачы косячага падвіленскага селяніна, хацелася мне ўзяць ад яго касу і пакасіць, бо ўсё жыцьцё вёскі так блізкае, і мілае майму зроку і сэрцу. Едзем далей. І што хвіліна, то ўсё новыя і новыя паўстаюць прад вачыма вобразы, але ўсе яны мне знаёмыя і як-бы родныя. А сэрца ўсё мацней бʼецца з радасьці, а на душы так салодка і прыемна; ахапіла мяне нейкая нявытлумачаная роскаш, якая заахвочывае жыць і цешыцца жыцьцём.

О, які добры, разумны і прамудры той Тварэц, які ўсё так гарманічна настроіў, што ўся прырода йграе чароўнай сымфоніяй, а ў такт усяе прыроднае музыкі грае і маё сэрца. О, які я шчасьлівы, што чую той камэртон Божы, я чую душой і сэрцам тую чароўную сымфонію, на хвалях якой узгадавалася — выкалыхалася мая хоць мужыцкая, але чулая душа. О шчасьлівы, што я мужык-беларус, што я здольны ўслухацца сваей душой у тыя так таёмныя, але добра знаныя мне тоны нашай беларускай прыроды, нашы панурыя аблічча, але багатыя зьместам малюнкі.

Той не ацэніць тых малюнкаў, хто ня знае Беларусі, або чалавек грубы душой. Ад нашага селяніна з пад нахмураных броваў — з пад тых глыбока запаўшых вачэй вее чыстая душа славянская, якая захавала яшчэ да сяньня многа дабрадушнасьці славянскай і праўдзівай пакоры і чыстаты характару прашчураў славянскіх.

Так, разьляглíся неабнятыя абшары па абодвых бакох чыгункі. Гэта абшары спрадвякоў беларускія — гэта калыска сяньняшняга пакаленьня, з якога вышлі як верныя сыны Беларусі, так і здраднікі — рэнэгаты, што ганебна сягоньня з яе насьмяхаюцца і плююць пенай нянавісьці.

Так, гэта абшары гора і сьлёз, крыўды і несправядлівасьці, якая чынілася ад вякоў.

Так—гэта абшары, якія аддаўна зьяўляюцца яблыкам нязгоды Ўсходу і Заходу. Едзем далей. Цягнік ляціць, сьпяшаецца, ад пары проста захліпаецца. Сьпяшыць цягнік — гоніць яго пара і я сьпяшу думкай туды, дзе ніколі ня быў.

**Фр. Цяцерскі.**

# Памер Т. Эдісон.

18 кастрычніка с. г. у Амэрыцы памёр вялікі вынаходчык Т. Эдісон. Паходзіў ён з беднае эмігранскае галянскае сямьі ў Амэрыцы, радзіўся у 1847 г. Бацькі не маглі яму даць належнага ўтрыманьня, а таксама і вучыць.

Дык вось-жа Т. Эдісон, маючы 11 гадоў пачынае сам на сябе зарабляць, вольныя хвіліны выкарыстоўваючы для самаасьветы і вынаходчывасьці. З пачатку займаецца ён прадажай агароднíны, пасьля прадае газэты у цягніку, а потым нават сам рэдагуе і выдае часопісь, найбольш аднак цікавіцца тэлеграфам.

Маючы ужо 15 гадоў добра знаёміцца з тэлеграфам і дастае пасаду тэлеграфісты. У 1868 годзе Эдісон прадстаўляе ўжо да апатэнтаваньня (рэгістрацыі) першы свой вынаходак — апарат да аблічаньня галасоў у парляманце. У наступных гадох вынаходзе ён апарат для паказываньня

цэнаў на біржы і аўтоматычную сыстэму тэлеграфу, якая пазваляе перасылаць некалькі тэлеграмаў разам. У 1877 годзе Эдісон канструуе першапачатквы узор грамафону. Пры тым Эдісон будуе вялікія ляборатоwы і ўводзіць усялякія паляпшэньні ў тэхніку.

У 1879 годзе Эдісон аддае да ўжытку людзей свой найвялікшы вынахад — электрычную лямпачку (жароўку).

Лічба ўсіх вынаходаў Эдісона сягае больш 1000, што ясна сьведчыць аб яго надзвычайных выключных здольнасьцях.

Характэрыстычныя прыметы Эдісэна гэта — надзычайная вытрываласьць, памяць і панятнасьць. Як чалавек—ён быў рашучы, практычны, вясёлы; любіў спорт, музыку, тэхніку і мастацтва.

Як бачым чалавек гэты з гора і з бяды, дзякуючы сваім здольнасьцям і вытрываласьці ня толькі здабыў для сябе веду і славу, але прынёс для цэлага сьвету вялікія заслугі. За тое яму аддаюць чэсьць усе народы. (З.)

# Літэратурны аддзел.

* * *

Плакаў дождж ноччу,
Біўся ў вокны лісьцем...
Сэрца чагосьць хоча,
Як даўно, калісьці...

У дрэме, неспакойна,
Мрою аб дзяўчыне...
Цені у пакоі
Спрялі павучыньне...

Ценяў сон вясеньні —
Матыль лёгкакрылы...
Плывуць лятуценьні
З дальніх небасхілаў...

Хв. Ільяшэвіч.

З ЦЫКЛЮ ВЕРШАЎ—ВОСЕНЬ.

* * *

Зямля, зямля... О, як ірдзіцца,
Тваіх палёў жаўклявы плёс!
Так сэрца й хоча заблудзіцца
У аўсяным золаце палос.
Спакіну усё... Усе спакіну,
Усе клапоты і ману
І ва чырвоны куст рабіны
Зьнявер'я сум распну.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зямля, зямля..· хоць ўсё тут зьменна,
Усё ня вечна, як і ты,
Але за міг жыцьця,
За кожны міг красы тваей штодзенны
Табе складаю песьні я,
Як дар юнацкае душы.

М. Машара.

## МОЙ НАРОД.

Так! Мой народ ёсьць надта сьмешны—
Такі сьляпы гарбаты дзед...
Па сьвеце бродзе з лірай — грае,
А сам — забыўся і ня знае
Дзядоў сваіх... мінулых лет...

Аднак я ўсім скажу аткрыта:
Я сын сьляпца! Ня стыдна мне,
Ідзём мы з ім так год ад году
У сьвет шырокі — на свабоду,
А станем мо'.,. й на вышыне!...

Браток! Ты з нас сьмяешся злосна —
А знай, што сорам гэтым вот
Дзецям і сытым і вясёлым,
Калі іх бацька пад касьцёлам
Жабрак — а спаць ідзе пад плот.

**О. Олэсь** (З украінскага В. Б.)

## СЛУЦКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ...

Іх былі жменькі...
Верныя дзеці старой Беларусі
Сьцяг свой з Пагоняй узьняўшы навенькі,
У сьмертным хаўрусе
Ишлі бараніці
Крывёй маладою дзедавы віці —
Вёскі, загоны,
Ніваў прагоны,
Гонейкі вузкі,
Народ гарапашны, Народ Беларускі
Прад чорнай навалай чужынства дзікога,
Што сунулась хмарай палямі, дарогай,
Каб край наш стаптаці і ярмы нам ўзьдзеці;
Каб нас разагнаці нягодна па сьвеце...
Іх былі жменькі:
Дзеці маленькі.
Стары дзядочкі,
Юнцы маладыя, хлапцы дагадочкі.
І гэтыя воі, бязстрашны шаленцы
Прашлі ўспамінаці Грунвальдаву славу,
Пабраўшы паленцы,
Ахоплены жарам,
Каханьня пажарам
Зямлі Ізяслава...
І целам ахвярным бы жніўнай парою,
Абняўшысь з зямлёю
Шалёныя жменькі
Услалі прасторы, ваколь напраменькі...

Ім гымны пяялі,
Хаўтурныя далі
І пожняў прасторы,
Скрываўлены зоры,
Звуглелы разоры,
Стаптаны палеткі
Іх слаўнае сьмерці маўклівыя сьведкі...
Зьляглі маратонцы —
Байцы за свабоду
Радзімай старонцы,
Сказаўшы Народу,
Як трэба кахаці Айчыву і Волю,
Як трэба змагаці чужынства няволю. .

С. Сарока.

## З мінулых дзён.

(Успаміны). 5)

V.

Дарога цягнулася даволі доўгі час. Прыходзілася цэлы дзень ехаць, толькі начач заяжджалі ў якое-колечы мястэчка, дзе маглі троху адпачыць і павячэраць. Праўда, з яды троху давалі немцы, так напр.: у адным мястэчку, падчас заезду бежанцаў, прынесьлі вялікі кацёл кавы і хлеба белага, каторага доўгі час мы ўжо ня бачылі ў вочы, і кожнаму дасталося па кубку кавы і па кавалку хлеба. Бывалі такія выпадкі, што і страву давалі, але надта рэдка спатыкалася гэткая аказія.

Цяперашняя дарога была дарогай няйвялікшай з усіх дарог. Але нарэшце паехалі да таго мейсца, да якога гналі нас „паны нашыя." Былі гэта дзьве вялікія і пустыя вёскі: адна называлася Запольле, а другая — Шляхты, у каторай нам прышлося жыць нейкіх каля трох гадоў. У гэтай вёсцы — Шляхтах, да прыезду нас, амаль нікога ня было, толькі дзьве хаты былі занятыя — у аднэй жыў нейкі шляхтун, а ў другой — двух старых братоў — кавалераў, адзін з іх быў дурны; а рэшта ўсе хаты былі пустыя. Прыехаўшы ў гэту вёску, якраз самым вечарком — заходам сонца і з вазоў паздымаўшы свае рэчы, пашлі мы у хату, а хата — Божа мой мілы! Ня было там ні вокнаў, ні дзьвярэй, стрэхі пааблупленыя, адным словам пустая рагаўня стаяла. Зімна было. Пайшлі грэцца ў хату да гэтых двух старых кавалераў; прышоўшы, пасядалі на лавах і сядзім, узіраемся на ўсё, што было ў хаце; аж чуем — нехта злазе з печы — гэта быў той дурны і давай нас з хаты выганяць, мы малыя, дык і моцна перапалохаліся, але скора яго брат успакоіў і ўзноў зачалася гутарка мужчын і жанчын з гаспадаром.

Вечарам усе мужчыны пашлі да старасты ў хату, гдзе немцы раздавалі для бежанцаў прадукты. А тымчасам жанчыны ў хаце пазабівалі вокны посьцілкамі, дзьверы так-жа і пачалі паліць у печы. Прышоўшы мужчыны ў хату прынесьлі з сабою: хлеба, рыбы, круп нейкіх, мяса конскага, цукру, гарбаты і чагось яшчэ, нейкай сушанай бручкі. Скора была зварана вячэра. Павячэраўшы ляглі ўсе на зямлі спаць; а як добра спалася пасьля такой цяжкай і доўгай падарожжы!

Мелі мы коні, а карміць іх ня было чым; трэба было нейкую раду даваць. Вось назаўтра пайшлі да гумнаў і давай дзерці страху ды карміць змучаную жывёлу. Але гэтага надоўга не хваціла, калі яшчэ ўся зіма была ўперадзе. Папрабавалі мы жабраваць — езьдзіць па людзях, але ў той час людзі былі бедныя і ніхто нічога не даваў. Ну, і што-ж, — нічога не парадзіш, мусілі мы прадаваць свае коні забясцэн, а самі аставацца з голымі рукамі.

Вялікага голаду бежанцы не паносілі, усё-ж-такі троху немцы дбалі пра гэтых людзей: кожны тыдзень прывозілі прадукты і раздавалі. Прывёзшы ў вёску, зьбіраліся мужчыны ў хату якую небудзь і там гэта ўсё раздзелівалі так, каб нікому крыўды ня было. Вось так і жылося памаленьку; чакалася, каб хаця скарэй ужо ўсё закончылася ды можна было вярнуцца ў свой родны кут.

Скора немцы перасталі даваць прадукты для бежанцаў, але за тое ўсіх мужчынаў пагналі на станцыю на работу; плацілі 3 маркі ў дзень і кожную сераду давалі па некалькі фунтаў мукі пшанічнай на бліны. Вось неяк памаленьку кідаліся з боку на бок. Чакалі, каб скарэй вясна прышла, можа трохі было-б лягчэй. Жанчыны пайшлі-б да людзей працаваць — і быў бы кавалак хлеба.

Прышла вясна, сонейка прыгрэла, пачало з стрэх капаць, пацяклі ручаёчкі па вуліцах, паля зазялянелі; людцы тамтэйшыя выйшлі на поле з сваімі конікамі, пачалі зямельку збожжам засяваць, а нашым людцам гледзячы на гэта ўсё пачало за сэрца брацы!... О, Божа наш добры, хто-ж нашу зямельку ўзарэ, хто-ж яе засее, хто-ж ёй паможа, хто-ж ёй палеча тыя раны, што парабіла вайна? Папрылятали птушачкі, пачалі песянькі пяяць, але людцам няміла было іх слухаць, калі сэрца рвалась туды, да свайго загончыку, да сваіх палетак, да сваіх імшараў, палёў і лугоў!

І так памалу праходзілі дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам, а ўсё думалася і думалася аб павароце. Перажываць прыходзілася ўсяго і добрага і благога; але больш благога, чым добрага.

Прайшло лета, настала ізноў зіма, прышлі Грамніцы — ўжо людзі пачалі гаварыць, што зімы палавіца; якраз у гэты мамэнт прышлося нам разьвітацца назаўсёды з ма-

лой Ганначкай — сястрыцай, каторая ўжо мела чатыры гадкі. Пахаваўшы яе, маці наплакалася на магільніку, а прышоўшы дамоў, як палажылася ў ложка, дык і пралежыла два гады, а пасьля і пашла сьледам за ёю. Смутныя настали хвіліны жыцьця. Маці хворая ляжыць у ложку, ня можа есьці зварыць, бацька ад цёмнага да цёмнага мусіў працаваць на кавалак хлеба, а я з меншым братам былі малыя і не маглі нічога зрабіць, хіба тольні часам схадзіць да мястэчка купіць малака ў немцаў. Але калі гора прыціснула — навучыўся я ўсё рабіць і есьці на'т гатаваць.

Жыў адзін малады хлапец з маткай не дагёка ад нашай вёскі, можа за якіх вёрст шэсьць, сем; ён заўсёды дбаў пра нашых людцаў; бывала намеле колькі воркаў мукі, прывязе ў гэтыя вёскі, гдзе жылі бежанцы і ў кожную хату дае па некалькі гарцаў; людзі яго паважалі і шанавалі і называлі збавіцелем сваім. Весь гэты чалавечак многа і нам памог у нашым жыцьці няшчасным. Прывозіў ён усяго: масла, сыраў, яёк, хлеба і да хлеба, а на'т і каня пазычаў матку вазіць да дохтара.

Урэшце прыпадкова даведаліся, што ўжо вайна ўспакоілася і можна варочацца дамоў на свае сядзібы. Варочацца то варочацца, але каб пасьля ізноў ня выгналі на зад? Мой бацька, ня помню з кім, пайшоў пехатою аж да сваей вёскі — праканацца, ці можна варочацца. Усе людцы чакалі павароту іх, як збаўленьня, але калі дачакалі, то мала ўсьцешыліся: бо было там усё панішчана, як будыніна, так і зямля. Наша хата стаяла, толькі было разабрана гумянцо, а нашага дзядзькі і другіх вяскоўцаў усё дашчэнту было зьнішчана, як хаты, так хлявы і гумны, але ўжо тыя суседзі, што асталіся ад нас, былі вярнуўшыся.

Пачалі ў немцаў хлапатаць, каб далі цягнік для ўсіх ды як-колечы вярнуцца. Але гэта ўсё ня так скора рабілася; прыходзілася абыйсьці ўсе мястэчкі, якія знаходзіліся навокал гэтай вёскі, а потым аблазіць усе іхныя урады, а там пасылалі адзін да другога, ад другога да трэцяга, а трэці да чацьвертага і г. д.; час скора праходзіў, а адказу нябыло і ня было.

Аж нарэшце прыйшоў загад ад нейкага старшага, каб далі некулькі вагонаў — загад быў выпаўнены; усіх людзей і рэчы якія хто меў спакавалі ў нейкія два таваровыя вагоны — як селядцоў у бочку, і павезьлі туды, адкуль прывезьлі... Янка Ваўштолскі.

# Лісты

## ЧЫТАЙЦЕ І ПАШЫРАЙЦЕ „ШЛЯХ МОЛАДЗІ!“

Друя. Трэці год ідзе, як часопісь моладзі нашае, гэтак неабходная для беларускага народнага жыцьця, рэгулярна, што месяц пакідае бел. друкарню ў Вільні і нясе ў Крывіцкія бяздольныя сёлы полань сьвятла і будзіць і гартуе сялянскую моладзь да дружнай працы і змаганьня за долю Бацькаўшчыны.

А калі наш месячнік яшчэ мала пашыраны, калі слабы матэр'яльна і мае не вялікі лік дзейных падпішчыкаў і супрацоўнікаў, калі далёка ня кожная вёска нашага краю чытае яго — то гэта квэстыя часу, ці інакш квэстыя няўпыннай працы нас, сьведамых Беларусаў.

А добрага апякуна, роднага дарадцы ў постаці часопісі так патрабуе наша бедная перадусім цёмная вёска, калі з усіх бакоў злыдні высіляюцца, каб згатаваць магілу народнаму Духу, што будзіцца з вяковае сьпячкі. Абавязкам сьведамай моладзі беларускай на вёсцы ёсьць пашырэньне сваіх родных часопісаў. Хай ня будзе ніводнага падпішчыка „Шляху Моладзі,“ які не здабыўся-б на столькі энэргіі, каб прыдбаць паміж сваімі суседзямі 1—2 новых прэнумэратараў. Калі ж навяжам лучнасьць з нашым цэнтрам сьведамага беларускага жыцьця ў Вільні, дык зьнікне тады тая цемра загнанага сяла. Тады шпарчэй паплыве праца зарганізаванай і дружнай моладзі. Ня будзе тады той беларускай вёскі, якая мела-б суседа — прадажніка народнай справы.

Бо тады толькі ў здраднікаў родных стрэх абудзіцца сумленьне, тады толькі мядзяк панскі далонь ім прапячэ на скрозь —калі ніводзін верны сын і верная дачка вёскі не захоча пляміцца падаваньнем такому злыдню рукі, хоцьбы гэта быў родны брат, калі прадажнікі гэтыя ня знойдуць уступу на вечарыну нашу.

А на жаль і ў нашай гміне гэта зельле-брыда завялося. Знаеце вы суседзі маладога хлапца з Сілеўшчыны, што нюхае ўсюды і за пару залатовак сябру свайго ўядае, гэта — К. Знаеце. Знае яго ўся гміна. Але ёсьць і яму падобныя, што як совы жыруюць у ночы.

Дык цягнімо іх на сьвятло дзеннае, азначаных кляймом прадажнасьці — хай дзеткі нашы ўцякаюць ад іх, як ад заразы.

Л. С.

## ЦЕМНАТА.

**в. Славікі**, Ваўкавыскага пав. У нашай вёоцы моладзі ёсьць даволі шмат, аднак мала хто з яе ўмее чытаць ды пісаць, а тым больш яшчэ пабеларуску. І дзіўна — няўмеюць і ня хочуць вучыцца, хоць, здаецца, пара ўжо зразумець, што чалавеку цёмнаму вельмі цяжка жыць. За тое-ж бадай уся наша моладзь вельмі здатна да непрызвайтых і ня культурных паступкаў. І дзеля гэтага прыкра слухаць, калі яна наракае на сваё жыцьцё. Бо калі кепска — то працуй, вучыся дый ідзі да таго, каб было лепш, і замест таго, каб выкідаць грошы на водку, ашчаджай іх на патрабнейшыя рэчы, калі-ж маеш вольны час, то не марнуй яго, купі кніжку, выпішы газэту і прачытай, а нешта скарыстаеш!

Уладзімер Адамчук

## ЗАБАРАНЯЕ ГАВАРЫЦЬ ПАБЕЛАРУСКУ.

**Мураваная Ашмянка**, Ашмянскага пав. Жыхары нашае старонкі, бадай усе беларусы і гавораць як старыя, так і маладыя выключна пабеларуску і мову сваю родную кожны шануе. Дзеля гэтага вельмі цяжкае ўражаньне робіць на вас агітацыя пару палякоў, каб мы ўсюды гаварылі папольску зазначаючы, што з мовай беларускай далёка не заедзеш (так як-бы з польскай можна далей заехаць).

Моладзь бязумоўна павінна аднак усюды гаварыць так, як умее, г. зн. сваёй роднай беларускай мовай, ня стыдацца яе і ня слухаць розных нягодных увагаў, нашых ворагаў. Карыстацца сваей мовай ніхто ня мае права забараніць. Калі-ж мы будзем карыстацца мовай чужой, то мы будзем губіць самых сябе.

Памятаймо словы бацькі нашага адраджэньня Фр. Багушэвіча: „Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!"

Малады Беларус.

---

**Псыхолёгія пабеларуску.** Ужо выйшаў з друку „КАРОТКІ НАРЫС ПСЫХОЛЁГІІ" — напісаны вучыцялем Віл. Белар. Гімназіі д-рам Міколай Ільяшэвічам. У тэксьце ільлюстрацыі. На канцы пададзены слоўнік беларуска-расейска-польскіх псыхолёгічных тэрмінаў. Цана 1 злот. Выпісываць і купляць можна ў Беларускай Кнігарні „ПАГОНІ" Wilno, ul. Ludwisarska 1 і ў іншых беларускіх кнігарнях.

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**

# Хроніка.

## З Беларускага жыцьця.

Звольнены 28 IX с. г. б. пасол і сэнатар Б. Рагуля, які праседзяў у турме 13 месяцаў.

Нэ зацьвердзілі. Польскія адміністрацыйныя ўлады адмовіліся зацьвердзіць новыя два гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў в. Гайвіне, Баранавіцкага пав. і Дэлятычах, Наваградскага пав.

Сьвяткаваньне паўстаньня. 15 лістапада ў Вільні спэцыяльны камітэт, на чале якога стаіць інжынер С. Бусел, ладзіць сьвяткаваньне 11-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня.

Віл. Бел. Гімназія. 4 г. м. адбыўся агульны сход Бацькаўскага Камітэту Віл. Бэл. Гімназіі, у часе якога выбраны новы ўрад Камітэту.

Пажадана вельмі, каб новы ўрад Бацькаўскага Камітэту далажыў сваіх стараньняў у кірунку паўстрыманьня выдаляньня вучняў з гімназіі, якія ня могуць плаціць за навуку.

Сталоўка. У хуткім часе мае паўстаць у Вільні Беларуская сталоўка: „Сытніца“.

Спэктаклі. У сёлетнім школьным годзе вучні Віл. Бел. Гімназіі зладзілі ўжо два спэктаклі - вечарыны, у часе якіх былі пастаўлены п'есы: „Бутрым Няміра“, „Галодны Дон Жуан“ і „Дарота“.

Прамова пасла Ф. Ярэміча. 2 кастрычніка с. г. у часе пасэджаньня Сойму выступаў беларускі пасол Ф. Ярэміч. Прамова яго надрукавана асобнай брашуркай..

З **Радавай Беларусі.** На с. год выбраны новы Савет Беларускай Акадэміі Навук, у склад якога паміж іншымі ўвашлі: Горын, як прэзыдэнт Акадэміі, Шчэрбакоў і Якуб Колас, як віцэ-прэзыдэнты.

— Апошнім часам у Радавай Беларусі павялічылася колькасьць друкаванага слова і так калі ў 1929 г. надрукавана было 331 кніжка, а ў 1930 г. — 1006 кніжак, то ў 1931 г. надрукавана ўжо 2777 кніжак.

— Беларускія вучоныя паэты і пісьменнікі, якія былі год таму арыштаваны быццам за антыкамуністычную работу, высланы ўсе ў цэнтральную Расею, а нават і далей.

— Паводле газэтных вестак б. паслы грамадоўцы Рак-Міхайлоўскі і Мятла, а так-жа і сэкрэтар Грамады Бурсэвіч выбраны ў сябры Выканаўчага Камітэту Камуністычнае Партыі Бэларусі на мейсца выкінутых адтуль сяброў падчас „чысткі“ гэтай партыі. Ходзяць так-жа чуткі, што йзноў праведзены масавыя арышты сярод беларускіх культурных працаўнікоў Усход. Беларусі.

**Беларусы ў Латвіі.** Паводле апошняе перапісі ў Латвіі беларусаў ёсьць 36 029, з якіх 22.220 каталікоў, 9 280 праваслаўных, 4,263 стараабраццаў, 105 лютэранаў і 260 інш.

## З украінскага жыцьця.

Вялікая страта. 25-га верасьня сёл. году памёр вялікі ўкраінскі дзеяч старшыня Т-ва „Прасьвіта" пасол М. Галушчынскі. Паховіны адбыліся 27-га верасьня, ў якіх брала учасьце тысячы народу на чале з духавенствам і дзеячамі.

## З Польшчы.

— У пачатку кастрычніка распачалася восеньня сэсія Сойму, у часе якой галасамі паслоў з урадавага Клюбу БэБэ праведзены новыя ўставы абцяжаючыя грамадзян новымі падаткамі.

— Пасольскі Клюб П. П. С. унёс ў Сойм праект аўтаноміі для Заходняе Украіны, аднак, каб штоколечы з гэтага вышла, трудна спадзявацца.

— У Варшаве распачаўся суд над павадырамі „Цэнтралеву" б. вязьнямі ў слаўным Берасьці.

## З заграніцы.

На далёкім усходзе неспакойна, японцы з кітайцамі ваююць за Манджурыю. Ліга Народаў пакульшто нічога проціў гэтага ня можа зрабіць.

— У Нямеччыне зьмяніўся ўрад. На чале новага ўраду стаіць дасюлешні канцлер Брюнінг.

— 27.X у Англіі адбыліся выбары ў парлямэнт, найбольш мандатаў здабылі кансэрватысты, а гэтым самым урад будзе мець у парляманце большасьць. Найбольш мандатаў страцілі англійскія сацыялісты „Партыя Працы". Камуністы паводле дасюлешніх аблічэньняў не здабылі аніаднаго мандата.

— Палітыкі ўсяго сьвету шукаюць выхаду з сучаснага гаспадарчага крызысу і з гэтай мэтай навязываюць паміж сабою сувязь, езьдзячы адны да другіх з візытамі. І так апошнім часам францускі прэм'ер Ляваль і мін. загр. спр. Бріян езьдзілі ў Бэрлін. Пасьля гэтае паездкі Ляваль езьдзіў у Амэрыку да прэзыдэнта Гувэра. Пазытыўных вынікаў з гэтых паездкаў і гутарак, якія ў гэтым часе вяліся, ня відаць.

— Апошнім часам вельмі часта паўтараюцца гутаркі нямецкіх а нават і амэрыканскіх палітыкаў аб рэвізіі Вэрсальскага трактату, устаноўленыя граніцы якім уважаюць за найвялікшую перашкоду ў палепшаньні сучаснага гаспадарчага палажэньня. Рэвізія гэта найбольш страшна для Польшчы.

— Літва выйграла справу з Польшчай у Міжнародным Трыбунале ў Газе ў справе адкрыцьця чыгуначнай камунікацыі на лініі Ляндварова—Кошадары. Між. Трыбунал пастановай сваёй высказаўся, што Літва ў сучасным палажэньні ня мае абавязку згадзіцца на адкрыцьцё чыгуначнай камунікацыі на гэтай лініі.